# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 32 (1015) ГОД XX 10 ЖНІЎНЯ 1975 г. ЦАНА 60 гр.


## Пуцяводныя думкі

Навука — акіян адкрыты, як для лодкі, так і для фрэгата. Адзін перавозіць па ім зліткі золата, другі ловіць у ім селядцы.

*Э. Бульвер*

Найлепшая радаслоўная — гэта паслугі, аказаныя радзіме і чалавецтву.

*Ж. Дэліль*

Шануйце адзін другога, не забываючы, што ў кожным чалавеку схаваная мудрая сіла будаўніка, і што трэба ёй даць волю развіцца і расквітнець.

*М. Горкі*

## Новыя вершы

## ОДА СЕЙБІТУ

*То забыццё...*
*То небыццё...*

*А ява — поле,*
*а не сны:*

*Паўсюль гайдаецца жыццё*
*Калыскай спелай збажыны.*

*Яна плыве за далягляд,*
*І кожны колас —*
*галава.*

*І цяжка вытрымаць пагляд*
*Мільярда сонечных зярнят,*
*Нібы мільярда вачанят,*
*Калі ты*
*іх не гадаваў...*

*У гэтым полі я —*
*не госць.*

*Але прыйшло,*
*як адкрыццё,*
*Што нездарма сугучча ёсць*
*У словах „жыта“*
*і „жыццё“.*

*Што сонца-вечная сяўня*
*Не пастарэе*
*ў новы век.*

*Што толькі хлеб яму раўня —*
*Засведчыць кожны чалавек.*

*Праменні сыплюцца ў раллю.*
*Мкнуць промні жыта*
*ў вышыню...*

*І сходзіць шчасце на зямлю,*
*І хлебна*
*сённяшняму дню.*

*І той,*
*хто ранняю вясной*

*Зямлю і песціць,*
*і арэ,*

*Як дар,*
*у прыгаршчы бярэ,*

*Ніколі ў свеце не памрэ.*
*Бо сейбіт ён.*

**Раман Тармола**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "Ніве"





*Сланечнікі. Фота Я. Цялушэцкага.*

## 16 ГАДОЎ ПРАЦЫ

**Нядаўна выйшла з друку першая, выдадзеная ў Польшчы, граматыка беларускай мовы для падставовых школ. Гэтай кніжкай Варшаўскае школьнае і педагагічнае выдавецтва закончыла друк падручнікаў беларускай мовы. У сувязі з гэтым рэдакцыя „Нівы“ звярнулася да аўтараў „Граматыкі“ і шэрагу іншых падручнікаў Лідзіі і Мікалая Гайдукоў з некалькімі пытаннямі. Адказвае Мікалай Гайдук.**

**— Чым была падыктавана патрэба працы над граматыкай і якую мэту ставілі пры гэтым аўтары падручніка?**

— Да гэтага часу ў малодшых класах у чытанках былі толькі дробныя элементы граматыкі, а старэйшыя класы вымушаны былі карыстацца граматыкай, выдаванай у Беларусі. Гэта стварала нямала клопату настаўнікам, паколькі наша праграма значна адрознівалася ад той, да якой прыстасаваны падручнік. І гэта зразумела. Для школ патрэбны быў падручнік, які б падаваў максімум ведаў у як найбольш скандэнсаванай форме. Націск у працы над граматыкай быў пакладзены на сістэматычную, канкрэтную лекцыю мовы. Уведзена было шэраг тэм, якіх наогул няма ў савецкім падручніку для падставовых школ. Напрыклад, ва ўводзінах тры параграфы прысвечаны развіццю і дыялектам беларускай мовы. Часта падручнік навязвае да прыкладаў з польскай мовы, у практыкаваннях прыводзяцца прыклады з мясцовага жыцця і г.д.

**— Вы з'яўляецеся таксама аўтарам падручнікаў для 3, 4 і 5 класаў. Гэта вельмі вялікая праца. Скажыце, калі ласка, як і з чаго ўсё пачалося? Што стала пачаткам вашай працы?**

— Недзе ў 1959 годзе, калі мы толькі пачыналі сваё працоўнае жыццё, нас паклікалі ў Кураторыю. Там было ўжо чалавек дзесяць настаўнікаў беларускай мовы. Гэта было першае пасяджэнне ў справе друку беларускіх падручнікаў у Польшчы. Параіўшыся паміж сабой, мы вырашылі з Лідай спрабаваць сваіх сіл. Практыкі тады ў гэтых справах ніхто з нас не меў. Але ўсе мы мелі ахвоту як найхутчэй перадаць свае веды, здабытыя гадамі вучобы. Першым нашым падручнікам быў „Беларускае слова для 4 класа“. Цяжка ён нам даваўся. Адчуваўся недахоп працы ў школе. Год працавалі, а калі аддалі ў рэцэнзію, нам

**(Працяг на стар. 4)**

## ІХ ТРОЕ І ЁН АДЗІН

Калёнія Антанова. Некалькі кіламетраў за Орляй.

За альшынавым гаем — адзінокая сяліба. Гэта маёмасць Васіля Рубашэўскага. Гаспадар заняты пры пабудове новага жылога дома. З цэглы і бетону, бо як жа інакш. Трэба ж каб сучасны дом на вёсцы абавязкова нагадваў гарадскія „асабнякі“. Такая ўжо мода. „Асабняк“ Рубашэўскага распланаваны з вялікім размахам, перспектыўна, у гарадскім стылі. Цэнтральнае абаграванне, водаправод, каналізацыя, гараж для аўтамабіля, прасторныя склепы і іншыя склады гаспадарчага характару. Старая, драўляная хата, якая стаіць побач, выглядае цяпер як стагадовая бабулька, што чакае хуткай смерці. І сапраўды, засталіся для яе ўжо лічаныя месяцы жыцця. Трэба ж даказаць, што Васіль Рубашэўскі не горшы ад іншых братоў, хаця гэта яму давялося застацца на гаспадарцы, якой ніхто не любіў і не хацеў. 16 гектараў зямельных угоддзяў і шмат лесу. Прастор агромністы. Каб дагледзець усё гэтае як след, трэба многа разоў пакупацца ва ўласным поце.

— Было нас у бацькі чатырох, — гаворыць Васіль Рубашэўскі.

**Ян** выбіўся ў інжынеры. Цяпер жыве ў Гданьску і вучыць студэнтаў электранічнага факультэта Гданьскай палітэхнікі.

**Федзя** і **Валодзя** — сталі шахцёрамі. Шмат ужо гадоў дабываюць з-пад зямлі Шлёнска „чорнае золата“. Нават „перонамі“ ў кожным сказе стралялць навучыліся.

І Васіль таксама доўгі час шукаў шчасця за парогам бацькоўскай хаты. У яго поўная сярэдняя адукацыя. Яшчэ ў 1952 г. закончыў ён Беластоцкі ліцэй воднага будаўніцтва. Перад вайсковай службай, ён працаваў крыху ў Варшаве, а пасля — у Бельску, у павятовай сельскагаспадарчай адміністрацыі. І пакуль жыў бацька, Васіль зусім не цікавіўся гаспадаркай. Аднак, нечакана бацька памёр, пражыўшы 60 год. Прывязаўся да яго рак лёгкіх і не было ратунку.

— Тады я склікаў сямейную нараду, — расказвае

**(Працяг на стар. 2)**



*— Было нас у бацькі чацвёра, аднак мне давялося застацца на гаспадарцы, — гаворыць Васіль Рубашэўскі. — І я гэтага не шкадую.*




## АРБІТА СУПРАЦОЎНІЦТВА

З пачуццём вялікага задавальнення і радасці сустрэў свет сумесны савецка-амерыканскі эксперымент у космасе. У каментарыях замежнага друку, у выказваннях вучоных і грамадскіх дзеячоў падкрэсліваецца, што гэты эксперымент мае важнае навуковае і палітычнае значэнне і з'яўляецца прамым вынікам палітыкі разрадкі напружанасці.

„Палёт „Саюза" і „Апалона", — піша „Нью-Йорк таймс" — велізарны крок на шляху супрацоўніцтва дзвюх вялікіх дзяржаў". „Савецка-амерыканскі касмічны эксперымент дэманструе, што сусветныя дзяржавы могуць супрацоўнічаць у розных галінах", — падкрэслівае „Крысчэн сайенс монітар". Сэнс працэсу разрадкі, указвае газета, якраз у тым і заключаецца, што „...у наш ядзерны век палітыка супрацоўніцтва і згоды з'яўляецца лепшай гарантыяй міру, чым палітыка канфрантацыі. Значна разумней канструктыўна супрацоўнічаць на міжнароднай арэне з рускімі, чым рабіць стаўку на вайну".

Не выклікае ніякіх сумненняў, што сумесны палёт савецкага і амерыканскага караблёў азнамяноўвае сабой падзею надзвычайнай важнасці, з'яўляецца новым крокам на шляху развіцця супрацоўніцтва паміж ЗША і СССР, заявіў член сенацкай камісіі па аэранаўтыцы і даследаванню космасу Л. Уэйкер. Я лічу, падкрэсліў ён, што ўсебаковае развіццё дзелавых сувязей паміж ЗША і СССР адыгрывае асабліва важную ролю для лёсаў свету, паколькі садзейнічае ўмацаванню міжнароднай разрадкі, якая адпавядае інтарэсам усіх народаў. Я рад, працягваў сенатар, што ўрады Савецкага Саюза і Злучаных Штатаў шукаюць і знаходзяць новыя сферы супрацоўніцтва, прыкладам чаго служыць гістарычны палёт „Саюза" і „Апалона". Дзейнічаючы сумеснымі намаганнямі, мы можам дасягнуць большага, чым дзейнічаючы ў адзіночку.

Старшыня камітэта ААН па выкарыстанню касмічнай прасторы для мірных мэт Петэр Янковіч (Аўстрыя) заявіў: „Сумесны палёт „Саюза" і „Апалона" мае велізарнае значэнне. Бясспрэчна, гэта выдатная падзея ў гісторыі асваення космасу. Сумесны палёт з'яўляецца таксама бліскучым узорам міжнароднага супрацоўніцтва, які азнамяноўвае пачатак новай эры ў даследаванні касмічнай прасторы".

„Праграмы, накшталт гэтай, — сказаў дырэктар Нацыянальнага ўпраўлення ЗША па аэранаўтыцы і даследаванню касмічнай прасторы (НАСА) Дж. Флетчэр, — даюць абедзвюм краінам магчымасць працятваць настойлівыя намаганні дзеля пашырэння нашых навуковых ведаў, служаць тэхнічнаму прагрэсу ў інтарэсах усяго чалавецтва, паляпшэнню жыцця на зямлі".

„Сумесны палёт „Саюз-Апалон" — эпахальная падзея. Ён адкрывае бязмежныя перспектывы вывучэння космасу, і гэтаму трэба толькі радавацца", — сказаў у сваім выступленні па радыё і тэлебачанню амерыканскі касманаўт А. Шэпард.

Член сенацкай камісіі па замежных справах Кларк сказаў: „Навуковае значэнне палёту вялікае, але галоўнае заключаецца ў тым, што ён сімвалізуе прагрэс у адносінах паміж нашымі дзвюма краінамі. Палёт будзе садзейнічаць супрацоўніцтву і нармалізацыі адносін паміж дзвюма вялікімі дзяржавамі, атрымае шырокую грамадскую падтрымку. Ён выкліча міжнародны рэзананс і паслужыць станоўчым прыкладам для іншых краін. Гэты дух супрацоўніцтва трэба перанесці на палітычныя і эканамічныя зносіны ЗША з Савецкім Саюзам".



*Томас Стафард і Аляксей Лэонаў — камандзіры касмічных караблёў.*







*Мост у парку цераз раку Сож.*

## ПАРК КУЛЬТУРЫ І АДПАЧЫНКУ

Іх многа ў Беларусі. Знаходзяцца яны ў кожным горадзе рэспублікі. Але сёння хочацца расказаць аб Гомельскім парку культуры і адпачынку імя А. У. Луначарскага, які часамі называюць курортам горада.

Куды ні глянь, наўкола кветкі. Іх тут мноства. У алеях і на адкрытых пляцоўках утвораны маляўнічыя дывановыя кветнікі, клумбы, вазы — сапраўдныя творы паркавага мастацтва.

Але хараство парка не толькі і не столькі ў алеях і кветках, колькі ў самой яго прыродзе. Экзатычныя далінкі ды пагоркі, паросльія векавымі вязамі і дэкаратыўнымі кустарнікамі, ствараюць непаўторны краявід. Гэтае хараство прыроды дапаўняюць пяць масцікаў над ручаінамі. Адзін з іх спалучае старую частку парка з новаю, што знаходзіцца на другім беразе ракі Сож. У парку адкрыты краязнаўчы музей, ёсць планетарый, Палац піянераў і школьнікаў, дзіцячы кінатэатр. Прыгожы тут і зімовы сад, у якім добра сябе адчуваюць кіпарысы і пальмы, лаўровыя і персікавыя дрэвы, магноліі і іншыя прадстаўнікі трапічнай флоры.

Вялікім зацікаўленнем карыстаюцца атракцыёны, спартыўныя пляцоўкі парка.

Калі да ўсяго таго дадаць, што на тэрыторыі парка ёсць і цудоўныя пляжы, дык няцяжка зразумець, што гэта сапраўды надзвычайная зона адпачынку для працоўных.

У парку штодзень дэманструюцца дакументальныя і навукова-папулярныя кінафільмы. На летняй эстрадзе часта выступаюць з канцэртамі артысты, калектывы мастацкай самадзейнасці. Парк мае два ўласныя мастацкія калектывы, духавы аркестр і эстрадны ансамбль. Яны даюць штотыдзень два-тры канцэрты для наведвальнікаў, не лічачы штодзённых танцавальных вечароў.

Асаблівымі клопатамі і ўвагай акружаны тут дзеці. Для іх арганізуюцца спецыяльныя імпрэзы. Колькі ж, напрыклад, радасці маюць дзеці падчас веснавога свята „Птушкі на крылах вясну прынеслі", і з якім задавальненнем удзельнічаюць яны ў конкурсе на лепшае дэкаратыўнае афармленне калон школьнікаў, лепшае падрыхтаванне макетаў птушак, шпакоўняў, кармушак і гэтак далей.

Парк прыгожы не толькі ўлетку. Не сціхаюць дзіцячыя смехі і ўзімку. Дзеці ездзяць на санках, лыжах, на каньках; паказваюцца спектаклі піянерскага лялечнага тэатра. Вясёлымі і запамінальнымі бываюць святы: сустрэча Новага года, Правады зімы...

Калі вам здарыцца пабыць у Гомелі, дык не забудзьце наведаць парк культуры і адпачынку імя Луначарскага. Напэўна не пашкадуеце таго.

**Сцяпан Каламіец**

Пачатак на стар. 1

## ІХ ТРОЕ І ЁН АДЗІН

ўласнік Антонаўскага хутара. — У асноўным абмяркоўвалі мы толькі адну справу: што з гаспадаркай? Ніхто яе не хацеў. Усе ўзіраліся на мяне. Табе тут найбліжэй, гаварылі дружна, дык бяры і рабі. А мне шкада было бацькаўшчыны. І я застаўся.

Аднаго з Рубашэўскіх, інжынера Яна, сустрэў я год таму назад у Гданьску. Памятаю, ён з гордасцю гаварыў пра свайго брата Васіля.

— Бацькаўскую гаспадарку паставіў ён на высокім узроўні. Цяпер у яго ўсё па-сучаснаму. А ў наваколлі брат мой карыстаецца ўсеагульным прызнаннем. З яго — актыўны грамадскі дзеяч.

Сапраўды, Васіль Рубашэўскі лічыцца цяпер перадавым гаспадаром у Арлянскай гміне і, здаецца, яшчэ не сказаў ён свайго „апошняга слова". Пакуль што ўсё шукае найбольш уласцівага для сябе месца ў сельскагаспадарчай вытворчасці. Застаўся на зямлі, бо пашкадаваў бацькаўшчыну. Аднак, да бацькаўскіх „гектараў" адносіцца ён без сентыменту. Звычайна, лічыць іх, як свой станок прадукцыйнай дзейнасці. Спрабаваў гадаваць свіней. 30 кормнікаў за год у закрытым цыклі: ад уласных свінаматак і ўласных парасят да беконаў. Адначасова трымаў дойныя каровы — 7 штук, ад якіх у мінулым годзе здаў звыш 22 тысячы літраў малака. Заняўся таксама адкормам „букатаў".

— Цяпер усё гэта ліквідую, — гаворыць гаспадар, — і бяруся за авечкі. Лугоў у мяне многа, звыш 6 га. Дык корму хопіць. На пачатак бяру 50 штук, а за 2 гады думаю развесці іх да звыш 100 штук.

Жадаем яму поспехаў. Хаця такая гадоўля патрабуе рук да працы. А ў Васіля Рубашэўскага іх не замнога. Самы старэйшы сын, Андрэй, толькі што закончыў 7-ы клас пачатковай школы. Дачка, Галенка, будзе вучыцца ў 2 класе, а самая малодшая дачушка, чарнавокая Інка пойдзе ў школу яшчэ праз год. Застаюцца ў асноўным уласныя рукі і жонкі Надзі.

— Пастараемся механізаваць нашу авечкагадоўлю, — гаворыць Васіль. — Ды авечкі не патрабуюць такога дагляду, як свінні або каровы.

Васіль Рубашэўскі поўнасцю даказаў, што ён не горшы ад трох іншых братоў, што дзяржава таксама і з яго мае вялікую карысць.

**Віктар Рудчык**
**Фота аўтара**

## ЗАЕЗНЫ ДОМ У ПЛЁСКАХ

У жывапісным месцы на ўскраі сасновага бору і над ракою Нарва непадалёку ад Плёсак у Храбалоўскай гміне, ля самай шашы з Заблудава ў Бельск, распачалася пабудова заязнога турыстычнага аб'екта ў выглядзе колішняй карчмы, са сталовай на 60 месц і належнымі месцамі для 32 чалавек. Каля заезнага дома будзе зроблена стаянка на дваццаць аўтамашын і іншыя сродкі транспарту. Гэткага роду першы на Бельскай зямлі турыстычны аб'ект будуе рамонтна-будаўнічая група Праўлення мясцовых дарог у Бельску. (ця)




**Sobota — 9.VIII.** 9.40 Pr. dnia. 9.45 Pr. I proponuje. 10.00 Dla dzieci: Na start. 11.15 Piosenka dla Ciebie. 12.00 Z cyklu: „Czas i ludzie" film dok. pt. „Giotto". 13.00 Pamiętnik T. Makowskiego. 13.55 Spotkanie z Orkiestrą Armeńską. 14.40 Lekt. Pegaza. 15.00 Studio Przebojów. 15.45 Postaw się, nie zastaw się. 16.45 Leśny miód — film fab. radz. 18.15 Co kto lubi. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Planeta małp — film fab. ameryk. 22.10 Studio Muz. Rozr. 22.40 Dziennik. 23.10 Sport.

**Niedziela — 10.VIII.** 8.55 Pr. dnia. 9.00 Dla młodych widzów: Pierwsza podróż — film fab. NRD. 10.10 Antena. 10.30 Huśtawka — film. fab. radz. 11.35 Zielona Góra. 13.00 Dziennik. 13.20 Tydzień. 14.00 Piórkiem i węglem. 14.30 Matka łabędzich piskląt — film przyr. RFN. 15.00 Los. Toto-Lotka. 15.15 Cudowne ubranie — film fab. radz. 16.45 Refl. ob. 17.00 Sport. 18.00 Progi i bariery. 19.15 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.20 Bajka dla dor. 20.30 Nowe przygody Vidocqa odc. VIII. 21.30 Róże Montreux — film rozr.22.15 Sport.

**Poniedziałek — 11.VIII.** 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Echo stadionu. 17.30 Teleferie TDC. 18.40 Eureka. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr Telewizji: Phillip Barris „Królestwo zwierząt". 21.50 Alfabet rozrywki. 22.30 Dziennik. 22.45 Sport.

**Wtorek — 12.VIII.** 9.00 Poranek. 10.00 Nowe przygody Vidocqa — film. ser. fr. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Na wielkim i małym ekranie. 17.30 Lato z pomysłem. 18.15 Fakty, op., hip. „Wirusy". 18.50 Nie tylko dla pań. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Przyp., radz. 20.25 Rancho w dolinie — film ser. ameryk. 21.15 Anatomia sukcesu. 22.15 Dziennik. 22.30 Sport.

**Środa — 13.VIII.** 10.00 Rancho w dolinie. — film ser. ameryk. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Los. Mał. Lotka. 17.10 Miasto w czerni — film ser. węg. 18.00 Patrol. 18.20 Załoga. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Filmoteka Arcydzieł — O czymś innym — film fab. CSRS. 22.00 Interstudio. 22.45 Dziennik. 23.00 Sport. 23.10 Inf., tow., prop.

**Czwartek — 14.VIII.** 10.00 O czymś innym — film fab. CSRS. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Tur., Urlopy, Rekr. 17.30 Teleferie TDC. 18.45 Czym żyje świat. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Przyp., radz. 20.25 Z serii: „Muzeum Kryminalistyki" film fab. RFN pt. „Poszukuję towarzysza podróży". 21.20 Pegaz. 22.05 Dziennik. 22.20 Sport.

**Piątek — 15.VIII.** 9.00 Poranek. 10.00 Z serii: Muzeum Kryminalistyki" film fab. RFN „Poszukuję towarzysza podróży". 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Teleturniej. 17.30 Sylwetki X Muzy — Bogdan Łazuka. 18.00 Dwie strony medalu. 18.30 „Mała encyklopedia zwierząt" odc. pt. „Gepard" ser. fil. przyr. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „A. Cyprian Dupin wkracza do akcji" odc. II filmu ser. CSRS. 21.00 Panorama. 21.45 Co nam zostało z tych lat — Marta Mirska. 22.15 Dziennik. 22.40 Sport.




**Piątek 8. VIII** — 8.00 Film fab. 17.10 Film fab. 19.30 Koncert. 20.55 Sala taneczna.

**Sobota 9. VIII** — 8.30 Film fab. 12.25 Koncert. 13.25 W świecie zwierząt. 16.45 Finał pucharu ZSRR w p. nożnej. Ararat—Zaria 19.30 Teatr miniatur.

**Niedziela 10. VIII** — 11.30 Film fab. 16.15 P. nożna CSKA—Dynamo (Tbilisi). 18.00 Klub film. 19.30 Koncert. 20.30 Jeździectwo. Mistrzostwa Europy w ujeżdżaniu.




**Białowieża** Och, jaki pan szalony — ang. 12—13. Dziewica i cygan — fr. 14—15. Ziemia obiecana — pol. 16—17.

**Czyże** Zła noc — czes. Przygoda z piosenką — pol. 13—17.

**Gródek** Awans — pol. 16—17.

**Kleszczele** Mój kochany Robinson — NRD 12—13. Roztargniony — fr. 14—15. Przygody Robinsona Kruzoe — radz. 16—17.

**Michałowo** Ucieczka Kin Konga — jap. 12—13. Raport — 36 — kor. 14—15. Przygody Hucka Fina — radz. 16—17.

**Milejczyce** Byłam głupią dziewczyną — węg. 12—13. Adaś i Ola — czes. 14—15. Przygoda z piosenką — pol. 16—17.

**Narewka** Świeć moja gwiazdo — radz. Wspaniały interes — radz. 13—17.

**Nurzec** Zaproszona — fr. 12—13. Przygody Hucka Finna — radz. 14—15. Rodzinny gang — wł. 16—17.

**Orla** Świeć moja gwizdo — radz. Próba terroru — USA 13—17.

**Rajsk** Gra złudzeń — fr. Po drugiej stronie słońca — ang. 13—17.

**Suchowola** Koniec wakacji — pol. Odstrzał — USA 13—17.

B.Z.Graf. zam. 1934 P-1

 




## ГЕНАДЗЬ ЦІТОВІЧ

Хто з нас не захоплен чароўнай беларускай народнай песняй „Рэчанька“ ў апрацоўцы **Генадзя Іванавіча Цітовіча!**

Нарадзіўся Г. Цітовіч 7 жніўня 1910 г. у настаўніцкай сям'і ў сяле Новы Пагост на Дзісеншчыне. Нягледзячы на матэрыяльныя цяжкасці бацькоў, ён здабывае сярэднюю адукацыю, а затым у 1930 г. паступае на прыродазнаўча-матэматычны факультэт Віленскага універсітэта. Да таго ж часу адносяцца і яго зацікаўленні збіраннем беларускіх народных песень, любоў да якіх яму прывіла яго бабулька — лепшая пяснярка ў ваколіцы. Аднойчы з тоўстымі сшыткамі сваіх запісаў ён з'явіўся ў прафесара Віленскай кансерваторыі Т. Шэлігоўскага — вядомага польскага кампазітара. Т. Шэлігоўскі не толькі горача адобрыў збіральніцкую працу Г. Цітовіча, але і пераканаў яго паступіць у кансерваторыю. Музыка цалкам запаланіла яго, і ён нават адмовіўся ў 1934 г. бараніць магістэрскую працу па біялогіі. Дырэкцыя кансерваторыі накіроўвае яго на дадатковую вучобу ва універсітэт, дзе Г. Цітовіч пад кіраўніцтвам славутага польскага этнографа прафесара К. Машынскага вывучае агульную і славянскую этнаграфію. У 1936 г. у адным з кракаўскіх часопісаў паяўляецца нарыс Г. Цітовіча „Беларуская народная музыка“, ён жа прымае ўдзел у падрыхтоўцы раздзела, прысвечанага славянскай народнай музыцы, што ўваходзіць у манументальную працу К. Машынскага „Народная культура славян“. У той жа час малады фалькларыст вандруе па сёлах і мястэчках Заходняй Беларусі, запісвае народныя песні і танцы, засноўвае беларускія харавыя калектывы, праводзіць з імі рэпетыцыі. У 1939 г. заканчвае кансерваторыю.

Неабмежаваныя магчымасці для прымянення здабытых ведаў і замілавання да народнай музыкі адкрыла перад Г. Цітовічам Савецкая ўлада. Ад 1939 г. ён працуе рэдактарам музыкальных перадач Баранавіцкага абласнога радыё, выступае з дакладамі, арганізуе шматлікія народныя хоры, ездзіць у фальклорныя экспедыцыі. Пасля Вялікай Айчыннай вайны вяртаецца зноў у Баранавічы і працягвае перарваную фашысцкім нашэсцем працу. У 1952 г. засноўвае Дзяржаўны народны хор Беларускай ССР і становіцца яго мастацкім кіраўніком. Ад першага свайго канцэрта і па сённяшні дзень гэты таленавіты ансамбль захапляе не толькі слухачоў Беларусі і іншых савецкіх рэспублік багаццем і разнастайнасцю беларускай народнай песні і творамі беларускіх кампазітараў, ён часта выязджае з канцэртамі ў замежныя краіны, расслаўляючы па ўсяму свету прыгажосць беларускага мастацтва. Ад 1974 г. Г. Цітовіч — старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, вядзе інтэнсіўную работу па збіранню і вывучэнню беларускай народнай музычнай творчасці. Да гэтага часу ён запісаў і апрацаваў каля 3000 беларускіх народных мелодый, выдаў шэраг зборнікаў беларускіх народных песень і танцаў. Яго пяру належыць некалькі дзесяткаў навуковых даследаванняў і артыкулаў, прысвечаных беларускаму народнаму шматгалоссю, народнаму выканальніцтву, стылёваму выканальніцтву сучаснай народнай песні, музычнаму побыту беларускай вёскі, параўнальнаму даследаванню музычнай творчасці славянскіх народаў і г.д. Г. Цітовіч вядомы таксама як кампазітар. Ён напісаў для хору „Калгасны вальс“, „Як той Зосі давялося“, „Беларусь мая“, „Велічальная“, „Добры вечар“ на словы А. Русака і шэраг іншых песень на словы беларускіх паэтаў.

Велічны ўклад Генадзя Цітовіча ў развіццё і ўдасканальванне беларускага музычнага мастацтва. (іс)

## ЭХ, ДАРОЖКА!

Жыхарам вёсак: Нурэц, Дубна, Шашылы, а таксама далейшым — Малочкам, Снежкам і Сабятыну вялікі клопат прычыняе дарога, якая вядзе напрамік у Бельск-Падляшскі. Гэтай дарогай цяжка дабрацца ў горад. Глыбокія каўдобіны, балота палохае кожнага. Цяжка тут ехаць парожняю фурманкаю; аб аўтамабілі і матацыкле лепш і не ўспамінаць. Але ж людзям дык трэба ж карыстацца гэтай дарогай. Асабліва — бяда жыхарам Мокрага, якія маюць у тых ваколіцах сенажаці. Як жа пераехаць ім гэтую 9-кіламетровую дрыгву з фурай сена? Сапраўдныя мукі. Ідзе час і ніхто не думае памагчы людзям. Гэтак, як цяпер, дарога выглядае ўжо ад непамятных часоў. Ці Боцькаўская гміна ведае пра гэтую дарогу?

(к-ус)




*Удзельнікі сёлетняга цэнтральнага агляду Яўген Бало і Мікалай Лапух з Орлі. Фота Я. Цялушэцкага.*




## ЖАНЧЫНЫ-САЛДАТЫ

Вайна — мужчынская справа. Нават мова наша, якая даволі дакладна адлюстроўвае акружаючую нас рэчаіснасць, не ведае асобнага названня для **жанчыны-салдата.** Бо с а л д а т к а і па-беларуску, і па-руску, і па-польску абазначае толькі ж о н к у салдата.

Аднак апошняя, найбольш лютая ў гісторыі, II сусветная вайна не ўшанавала жаночай слабасці і масава ўцягнула ў свае злавесныя шасцярні гэтых прадстаўніц лепшай палавіны людскога роду. Як падае **Крыштаф Вуйтовіч,** аўтар кніжкі *„Дзяўчаты ў жаўнерскіх шапках“* („Dziewczęta w rogatywkach"), пад канец вайны ў Войску Польскім на Усходзе і Захадзе служыла звыш 14 тыс. жанчын.

Лёс жанчын на вайне пазнаем у кароткай, але змястоўнай і жыва напісанай дакументальнай аповесці Крыштафа Вуйтовіча, якая ў гэтым годзе паявілася ў папулярнай выдавецкай серыі Міністэрства нацыянальнай абароны, абазначанай „Жоўтым тыграм“.

Вестка аб фарміраванні Польскага Войска маланкава разнясласся сярод польскіх сем'яў, раскіданых па аграмадных прасторах Савецкага Саюза. У Сялецкі лагер ужо 5 мая 1943 года прыбыло 13 дзяўчат. А за імі амаль кожны дзень прыязджалі іншыя.

А калі ранкам, 12 кастрычніка 1943 года, пасля кароткай артпадрыхтоўкі, разняслося па траншэях дружнае „Ур--ра!“ і польскія воіны рушылі ў атаку, каб вызваліць беларускія вёскі Трыгубава і Паўзухі, каб адпомсціць лютаму акупанту, разам з імі з аўтаматамі ў руках грамілі ворага Аляксандра Дубіцкая, Станіслава Эмільяновіч, Яніна Каханская, Станіслава Калодзей, Галена Фігура, Станіслава Бушта, сёстры Эмілія і Ядвіга Марозаўны, Анна Тэлега і многа-многа іншых — разам цэлая стралковая рота жанчын-аўтаматчыкаў. За геройства, праяўленае ў час бою пад беларускім мястэчкам Леніна, пасмяротна была ўзнагароджана Залатой Зоркай і званнем „Герой Савецкага Саюза“ першая іншаземка — маладзенькая польская дзяўчына Анеля Кшывань. Вечны спачынак у беларускай зямлі знайшлі таксама падпаручнік Стэфанія Вейман, радавы Марыя Мікуць і сяброўка гераіні Анелі Кшывань, аўтаматчыца Леакадзія Карчэўская. Ад цяжкіх ран памерлі пасля бою Станіслава Калодзей, Галена Шышка і Ванда Закірава.

А гэта быў толькі пачатак доўгага, крывавага шляху ад Леніна ў Берлін, у самае гітлераўскае логава. Чакалі іх яшчэ бai за плацдармы на пераправах праз Віслу, за вызваленне Прагі, крывавыя спробы перакінуць салдат для падтрымкі варшаўскіх паўстанцаў, зацяжныя бai на Паморскім Вале і на вуліцах Калабжэга, а пасля фарсіраванне шырокаводнай Одры і штурм Берліна.

Кніжка Вуйтовіча мае і тую вартасць, што яна праз лёс жанчын-салдат паказвае коратка, але вобразна і змястоўна паасобныя эпізоды з найбольш кравапралітных баёў, якія давялося разыгрываць звыш 400-тысячнай польскай арміі. Асаблівае ўражанне пакідаюць малюнкі з баёў польскіх салдат у верасні 1944 г. за ўтрыманне плацдармаў у паўстаўшай Варшаве. Аўтар — сам франтавік — ніколі не пераўвялічвае ўласнага геройства і не пазбаўляе адвагі і лютасці ворага. Ён добрасумленна перадае жудасную атмасферу вайны. (вр)




Міхась Савіцкі, Мінск. „Механізатары“.

**ЧАМУ ДЗІЦЯ НЕ ВУЧЫЦЦА РОДНАЙ МОВЕ?**

## ВЕДЫ НАСІЦЬ НЯЦЯЖКА

Не давялося мне прачытаць артыкула Мікалая Гайдука „У чым прычына?“ Думаю — хапае гэтага, што напісаў М. Панфілюк у артыкуле „Мой пункт гледжання“. Згаджаюся з М. Панфілюком. Не згадзіўся б з Мікалаем Гайдуком.

Я дванаццаць гадоў вучыўся беларускай мове; пачынаў ад буквара ў першым класе — і да заканчэння беларускага ліцэя. Хачу сказаць, што калісьці таксама не хацелася мне вучыцца беларускай мове. Не раз з настаўнікам — у пачатковай школе — спрачаўся я: навошта ж яна, беларуская мова, патрэбна?! Калі паступіў вучыцца далей, у беларускі ліцэй, зразумеў, як гэта вучоба прыдалася мне: мог свабодна пісаць, чытаць, гаварыць. Трэба сказаць, што беларуская літаратура — цікавая! Хаця ўжо прамінула чатыры гады, калі я закончыў ліцэй, аднак, шмат засталося ў памяці. Памятаю, чытаў Я. Купалы „Раскіданае гняздо“ — адным дыханнем, урэшце не змог чытаць, слёзы так і каціліся. А ўсё гэта аб жыцці нашых прадзедаў і дзядоў. Можна, дзякуючы нашай літаратуры, пазнаць ранейшае жыццё. Тым больш, што ўсё гэта адбывалася недалёка ад нашых родных мясцін.

Згаджаюся з М. Панфілюком, што шмат залежыць у навучанні прадметаў (не толькі — беларускай мовы) ад зацікаўлення настаўніка спосабамі перадачы ведаў...

Сапраўды, шчыра гаворачы, было тады цяжкавата вучыцца: па-першае, малавата было падручнікаў, па-другое, у трэцім класе трэба было адразу перайсці на польскую мову. Гэта быў мне самы цяжкі клас.

Здаецца, што трэба крыху змяніць праграму і ўсё будзе добра: хопіць увесці навучанне беларускай мовы ў другім класе, так, як раней пачыналі вучыцца — польскай. Не будзе тады такіх цяжкасцей, на якія натыкаўся я і ўсе тыя, якія вучыліся паводле гэтай сістэмы.

Дзіця ёсць дзіцём, ды шчыра гаворачы, нават і ў сярэдняй школе яно не вельмі ахвотна вучыцца, але вымаганні настаўнікаў ангажуюць да вучобы. Зусім, праўда, па-другому падыходзіцца да прадмету абавязковага і — неабавязковага. І тут бацькі думаюць — дапамагчы дзецям, аблягчыць ім, звольніць з урокаў роднай мовы выкарыстоўваючы законныя правы свае... Не разумеюць яны багацця беларускай мовы. Іх больш цікавіць гаспадарка і тое, каб дзіця ўмела чытаць, пісаць ды дадаваць, дзяліць і г.д. Не разумеюць, што гэтак было калісьці, а цяпер — больш вымагаецца ад сучаснага чалавека, і, напэўна, нічога дрэннага не станецца дзецям, калі будуць яны вучыцца беларускай мове. Тэхніка ідзе дапераду, шмат лягчэй гаспадарыцца. Не трэба ранюсенька ўставаць ды гнаць пасвіць кароў так, як рабіў я і многія мае равеснікі. Даводзілася касою касіць, жаць; цяпер гэтага ўжо няма. Разумею — ёсць і цяжкасці ў вясковых дзяцей. Многія з бацькоў не могуць дазволіць паехаць сваім дзецям у лагеры, на экскурсіі. На гаспадарцы такі малы памочнік патрэбны.

Тое, чаго навучышся, не будзеш на спіне насіць. Веды лёгка насіць не ў кніжках, а ў галаве, і прыемна карыстацца імі, калі яны ёсць.

Артыкул М. Панфілюка годзен глыбокай развагі.

**Мікалай Мароз, Уроцлаў**



 

**З РАЗБУДЖАНАЙ ГРАМАДЫ**

# Арцём Чыквін

Калі Беларуская сялянска-рабочая грамада распачынала сваю дзейнасць, **Арцёму Чыквіну** было 24 гады. Адслужыў ён ужо вайсковую службу, быў жанаты і надалей бедаваў на бацькоўскай гаспадарцы, пастаянна шукаючы абы-якога заработку, бо 10-асабовая сям'я ў яго бацькі часта недаядала.

— Я ўжо тады разумеў, — гаворыць заслужаны пенсіянер Арцём Чыквін, — што ўсяму вінаваты несправядлівы буржуазны лад. Асабліва шмат чаму навучыўся я ў час вайсковай службы. Служыў я ў Варшаве. У нашу роту пранікалі камуністы, бо ў Варшаве мелі яны ў той час вялікі ўплыў. Падкідалі нам газеты і лістоўкі, агітавалі да барацьбы. Тады, у бурлівыя 20-ыя гады, я ўпершыню пачуў пра Камуністычную партыю Польшчы. Яе ідэі мне спадабаліся. І, фактычна, ад гэтага часу магу лічыць сябе камуністам, бо за камуністычную дзейнасць ужо ў войску давялося пацярпець. За лістоўкі і агітацыю сярод салдат мяне двойчы арыштавалі і цягалі па розных штрафных ротах.

Вярнуўся Арцём у родныя Дубічы Царкоўныя. Хутка ў вёсцы пачалі гаварыць пра беларускую Грамаду. З кірмашоў у Гайнаўцы і ў Бельску людзі прывозілі навейшыя весткі і газеты. А там гаварылася, што ёсць такая арганізацыя, якая рашыла бараніць справы беднага беларускага люду.



Неўзабаве — у Дубічах Царкоўных быў заснаваны гурток Беларускай сялянска-рабочай грамады. Яго членамі сталі Іван і Арцём Чыквіны, а таксама брат расстралянага ў 1922 годзе Андрэя Тамашука — Мікалай і яго бацька, Тарас.

— Да нас далучыліся, — успамінае Чыквін, — Леанюкі і Шыманюкі з Грабаўца, былі і іншыя, якіх я ўжо забыў.

Супольна чыталі газеты і лістоўкі, вывучалі вершы, наладжвалі ігрышчы. Яшчэ сёння адзін беларускі верш прачытаў мне па памяці Арцём Чыквін. У ім гаворыцца пра беднага беларускага мужыка, які зразумеў, што сваё шчасце можа пабудаваць толькі ўласнымі рукамі. Гэтая літаратура даказвала, што прыгнечаны беларус мае такое самае права на людское жыццё, як кожны іншы чалавек. І таму панскі ўрад адносіўся варожа да Грамады, насылаў паліцыю на яе членаў.

Калі Грамаду развязалі, Арцём Чыквін неўзабаве ў 1930 г. стаў членам КПЗБ і застаўся ў партыі па сённяшні дзень. Пасля вайны пасяліўся ён у Бельску і шмат гадоў працаваў загадчыкам павятовай бібліятэкі. Быў заўсёды актыўным дзеячом БГКТ. Пяць год таму назад перайшоў на заслужаны адпачынак. За дзейнасць і працу дзеля агульнага дабра народная дзяржава ўзнагародзіла яго, між іншым, Кавалерскім Крыжам Адраджэння Польшчы.

Аднак і цяпер Арцём Чыквін не спыніў сваёй грамадскай актыўнасці.

— Чалавек дагэтуль жыве, — гаворыць ён мне, — пакуль працуе і дзейнічае.

Калі я прыехаў у Бельск, каб з ім сустрэцца, знайшоў яго ў судзе. Прымаў ён удзел, як грамадскі засядацель (лаўнік), у разборы адной справы. Арцёму Чыквіну вельмі часта даводзіцца прымаць удзел у разборы судовых спраў. Апрача гэтага, выбралі яго сакратаром пасялковай партыйнай арганізацыі. Працы ў яго хоць адбаўляй.

**(вр)**

**фота аўтара**



*Гасцініца ПТТК у Белавежы. Фота Я. Цялушэцкага.*

# У турысцкай Белавежы

У Белавежы поўны сезон. Кожны дзень прыязджае сюды ад 700 да 1000 экскурсантаў, а ў пагодныя нядзелі — нават да 1800. За паўгода Белавежу наведала каля 60 000 турыстаў, гэта на 15 прац. больш, чым у аналагічным перыядзе мінулага года. Сам Прыродазнаўчы музей да канца чэрвеня аднатаваў 49 975 наведвальнікаў. Прадбачыцца, што гэты год паб'е рэкорд папулярнасці Белавежы. Крыху больш, чым у мінулыя гады, едуць у Белавежу таксама замежныя турысты. Датычыць гэта асабліва калектыўных экскурсій. Пакуль што першынствуюць чэхі перад немцамі, рускімі, французамі, амерыканцамі. Усіх чужаземцаў за шэсць месяцаў г.г. налічана звыш 1,5 тыс.

Пастаянны рост ліку прыязджаючых у Белавежу выклікае пытанне, на якое, мне думаецца, ужо цяпер трэба адказаць. Колькі турыстаў, без шкоды для сябе, можа прымаць Белавежская пушча-унікум сурод лясоў Еўропы? Наша жамчужына занадта цэнная, каб яе пераўтвараць у другое Закапанае. Назіраючы неўралагічныя пункты белавежскага турызму, немагчыма не сказаць, што галоўнай заганай у ім з'яўляецца выпадковасць. Многія экскурсіі едуць сюды без якога-небудзь абдуманага плана. Вось, здараецца аказія, сядаюць у аўтобус і — гайда! — у Белавежу! Вельмі яшчэ рэдка можна сустрэць групы, якія прыехалі захапляцца прыродай, а не частавацца гарэлкай на ўлонні прыроды. Калі рэч аб п'янстве сярод турыстаў, дык першынствуюць у гэтых адносінах завадскія экскурсіі. Амаль кожнай завадской групе неабходна напіцца зуброўкі. Без гэтай „прыемнасці“ экскурсія залічваецца да няўданых. А тое, што пасля выпіўкі нічога не ўбачыцца ўжо ў Белавежы — малазначнае.

Многа закідаў можна таксама накіраваць у адрас арганізатараў школьных экскурсій. Часта яшчэ сустракаюцца групы з васьмі — дзесяцігадовых дзяцей, якія ані фізічна, ані разумова не падрыхтаваны да наведання пушчы.

Абагульняючы праблему выпадковасці, трэба падкрэсліць, што выводзіцца яна з няведання арганізатарамі экскурсій спецыфічных умоў белавежскага турызму. Сюды ў ніякім выпадку не можна арганізаваць маёвак ці чагосьці ў гэтым родзе. Трэба заўжды памятаць, што пушча — гэта жывы арганізм і ўсе перагрузкі, асабліва неабгрунтаваныя, моцна парушаюць яго функцыяніраванне.

Пра тое, што турысты знішчаюць прыроду — нам вядома не ад сёння. У белавежскім выпадку найбольш пацярпеў запаведнік прыроды. Шлях да дуба Ягайлы ў летні сезон праходзіць сотні ног штодзень. Дзякуючы гэтаму сцежкі на шляху замяніліся ў ток, а суседнія дрэвы пакрыху сохнуць. Аб тым, каб сустрэць якую-небудзь звярыну няма чаго і думаць. Яе ўжо даўно прагналі з гэтых месц. Добра зрабіла Дырэкцыя Белавежскага нацыянальнага парка, выдаючы новую пастанову, якая абмяжоўвае рух на тэрыторыі запаведніка. Шлях да дуба Ягайлы будзе ў далейшым даступны для ўсіх, за выключэннем школьнікаў да чацвертага класа ўключна, але шляхі ў глыб запаведніка будуць наведваць групы ў незвычайных прыродазнаўчых намерах, значыць перш за ўсё вучні і студэнты лясных вучылішч, настаўнікі біялогіі і г.д.

Увогуле ў Белавежы думаюць, каб увесь цяжар турысцкага руху перанесці на тэрыторыю добраўпарадкаванай часткі пушчы, якая ў пазнавальным сэнсе мала ўступае запаведніку. Гэтая ідэя мае ўжо многа прыхільнікаў.

**П. Байко**

# Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

**ВЯСНЯНКА**
**(„ЮРАЎСКАЯ“)**




*Ой, Юр, Юр, Юр'яшэ,*
*Жэнь волы на пашу —*
*Напасі досыта,*
*Прыжэні досвіета,*
*напасі досыта,*
*прыжэні досвіета.*
*Напасі кругленько —*
*прыжэні ранэнько,*
*напасі кругленько —*
*прыжэні ранэнько.*

Ад Марыі Паўлючук, 1906 года нараджэння, і Настасіі Паўлючук, 1905 года нараджэння, вёска Цялушкі Заблудаўскай гміны запісаў 31 студзеня 1975 года Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.

**ПІСЬМО ПАКЛІКАЛА Ў ДАРОГУ**

# ХАЦЕЎ САЛОДКА, ТО МАЕ ГОРКА

Пісьмо жыхара гміннай вёскі Чыжы, Васіля Пракапюка, патрабавала неадкладнага прыезду. У Чыжоўскай гміне ў гэтым годзе ўпершыню многа ўвагі было адведзена вырошчванню цукровых буракоў у шырокіх маштабах, паколькі гэтай сыравіны патрабуе новапабудаваны цукровы завод у падбеластоцкіх Лапах. У гміне ёсць адпаведная буракова-пшанічная глеба. Таму ўжо зімою на вясковых сходах шмат гаварылася аб карысці з вырошчвання цукровага бурака і пасыпаліся дагаворы аб кантрактацыі гэтай салодкай расліны. Вясною пасеялі ў сябе буракі многія сяляне чыжоўскай ваколіцы: Антон Янцэвіч, Казімір Янцэвіч, Мікалай Асіпюк, Ян Асіпюк з вёскі Лушчы, Уладзімір Давідзюк і Ян Герасімюк з Асоўкі, Андрэй Заброцкі і Васіль Пракапюк з Чыжоў, некаторыя гаспадары са Збуча. У некаторых з іх атрымаліся добрыя буракі. Ёсць аднак і выпадкі няўдач. Ранняй вясной не ўсе маглі выйсці ў поле. Было макравата і немагчыма было прыступіць да сеяння. Васіль Пракапюк з Чыжоў пасеяў буракі ў добрую пару. Але яшчэ ў пачатку ліпеня неабходна было іх заараць і ніколі ўжо з іх не будзе ніякай аддачы. Было іх, як сцвярджае гаспадар, больш гектара. Пачалося ўсё ад таго, што селянін Васіль Пракапюк звярнуўся да агранома Мікалая Асіпюка з пытаннем, як сеяць буракі і ці апырскваць іх перад сяўбой, ці пасля? Купіў ён 30 кілаграмаў шматпарасткавага насення за 150 злотых і 5 кілаграмаў пыраміну да апырсквання за 1425 злотых, бо такія буракі і такі хімічны сродак да ліквідацыі пустазелля паступілі ў продаж. Аграном ужываць кажа найперш пырамін, а пасля — сеяць буракі.



Як сеяць — так і не меў часу паказаць: густа ці рэдка, вузка ці шырока. Фаховай парады прасіў агранома таксама жыхар Чыжоў грам. Хадакоўскі, але яе таксама не атрымаў. Селянін пасеяў, як умеў. Выраслі буракі, а яшчэ больш плённае было пустазелле. Што рабіць? Звяртаецца ён зноў да агранома. — Што? Што? Прапалваць, бо загуста пасеяны, ну і, вядома, палоць. Ну, а хімікаты якіясьці мо яшчэ пасеяць? Але дзе іх узяць? У магазіне не было іх. Пасля, калі іх прывёз інструктар па справах кантрактацыі буракоў лапскай цукроўні, Антон Гуль, буракоў не было відаць у пустазеллі. Апырскваць ці не? — пытае селянін у кіраўніка гміннай сельскагаспадарчай службы, Яна Янцэвіча. Кіраўнік кажа, што ўжо гэты бетанал на нішто не здасца. Палоць, толькі палоць. Вазьмі і апалі! — падумаў гаспадар. Дзе ўзяць людзей? Палолі з жонкаю. Але калі толькі пайшоў дождж, пустазелле зноў ажно падскочыла. Папярэдняе апырскванне не дапамагло. Чаму, хто яго ведае? Потым гаспадар даведаецца, што пырамін трэба ўжываць пасля сеяння буракоў, а не, як яму параіў аграном, перад сяўбой. Плантацыя буракоў В. Пракапюка ля самай дарогі. Едуць людзі і смяюцца. — Хацеў Васіль мець салодка, — кажуць, — то мае горка. Буракоў тут не будзе. Да такога вываду дайшоў і сам гаспадар. Узяў і заараў іх. Спрабаваў садзіць бульбу, але тая яшчэ хіба цяпер толькі пачала ўзыходзіць. Параіў тады кіраўнік сельскагаспадарчай службы пасеяць у пачатку жніўня рапс і так пастанавіў зрабіць селянін Васіль Пракапюк.

Як выйсці яму з затрат? Хто верне грошы за насенне, хімічныя рэчывы да апырсквання і за самое апырскванне? Да таго, гектар ураджайнай зямлі ляжыць аблогам.

Думаем, што ў вышэй прадстаўленай справе выкажуцца гмінныя ўлады ў Чыжах і кіраўніцтва па справах плантацыі буракоў у Лапах. (ця)

 




**Дарагое „Сэрцайка"!**

Звяртаюся да цябе за парадай, спадзеючыся, што не адмовіш і дапаможаш разабрацца ў маіх турботах.

Мне ўжо споўнілася 19 год, жыву я ў вёсцы. Яшчэ ў дзіцячых гадах, пад канец пачатковай школы, пакахала я хлопца. Было гэта маё першае каханне. І, здавалася, што будзе яно бясконцае. А сталася інакш. Хлопец пайшоў вучыцца далей, выехаў у іншы горад і забыў мяне. Страшэнна я перажывала, з часам, аднак, боль станавіўся меншы; застаўся ў маім сэрцы недавер да хлопцаў. Здавалася, што не пакахаю ўжо нікога, усе хлопцы — ашуканцы. Ды яшчэ, на маё няшчасце, пачаў мною цікавіцца ды штораз часцей прыходзіць у наш дом хлопец з нашай вёскі — Віця. Ён мне зусім не падабаецца, але падабаецца маім бацькам, а таму, што ён — спакойны, багаты, адзін у бацькоў, на добрай гаспадарцы. Што ж мне, аднак, з таго, калі як толькі я ўбачу яго, дык уцякаю, каб з ім хаця не сустрэцца. А нядаўна я пабывала ў сяброўкі на вяселлі і там пазнаёмілася з хлопцам, які мне спадабаўся. Ён прыгожы, культурны. Пачалі мы часцей спатыкацца і стаў ён мне штораз больш падабацца, а я яму — таксама. Было ўсё добра, пакуль мае бацькі аб гэтым не даведаліся. Але нядаўна, у нядзелю, Мірак — так ён завецца — наведаў мяне дома. Бацькі аднесліся да яго ветліва і я была шчаслівая, што ён ім спадабаўся. Але, на жаль, калі Мірак паехаў, пачалі мне ганіць яго ды сказалі, што я павінна хадзіць з Віцем. Я не магу з імі згадзіцца; Віця мне зусім не падабаецца; я кахаю толькі Мірка. Я ўжо раз перажыла расстанне з каханым хлопцам і не хачу, каб гэта паўтарылася яшчэ раз. Парай, „Сэрцайка", што рабіць?

**Аня з Дуброўшчыны**

Аня! Бацькі свайму дзіцяці крыўды не жадаюць, але нярэдка не разумеюць маладых. Здаецца ім, што калі трапляецца багаты хлопец ды паважаны ў асяроддзі, дык гэта ўжо шчасце. Забываюцца аб пачуццях — справе, маладым, вельмі важнай. А багацце ж ад саміх іх залежыць. Яно — у маладых руках. Растлумач ім гэта. Няўжо забылі, як самі маладымі былі?

**„Сэрцайка"**

## Куток практычных ведаў




# СЦІРКА Ў ХАЦЕ

Нямнога жанчын любіць так званае „сямейнае свята" — вялікую сцірку бялізны ў хаце. Залічаюць яны мыццё бялізны да найцяжэйшых прац у хаце. Нічога дзіўнага — працягваецца яно часта некалькі дзён і парушае цэлы распарадак штодзённага жыцця.

Што зрабіць, каб праца гэтая стала лягчэйшай? Сціральная машына, папулярная „пралька", гэта той від абсталявання, які яшчэ не ў кожнай вёсцы можна прымяніць. Таму варта пазнаёміцца з іншымі відамі сродкаў для мыцця бялізны і спосабамі іх рацыянальнага прымянення.

Наогул бялізну мочаць ужо ў папярэдні дзень перад сціркай. У ваду дадаецца найтаннейшы парашок, або звычайная сода. На працягу цэлай ночы бруд „адмакае". Толькі на наступны дзень гаспадыня пачынае мыць бялізну. Мые раз, другі, варыць, зноў мые; пасля пачынае паласкаць і зноў мочыць бялізну цэлую ноч. Нарэшце на трэці дзень падсіньвае, крухмаліць, а часта перад гэтым яшчэ дадаткова выбельвае.

Прыгледзеўшыся да ўсіх этапаў мыцця бялізны ў хаце, можна заўважыць, што нешта можна скараціць. Напрыклад, мачыць можна не цэлую ноч, а толькі 3—4 гадзіны ў цёплай вадзе з парашком „Е". Дастаткова намачыць бялізну з самай раніцы перад штодзённымі гаспадарчымі работамі. Парашок гэты не толькі змякчыць ваду, не толькі дапаможа адмаканню бруду, але і не дапусціць да таго, каб бялізна стала шэрай. Аб адным трэба памятаць пры гэтым: нельга мачыць бялізну занадта доўга, бо тады адмочаны бруд пачне ізноў пранікаць назад у матэрыял.

Перад тым, як будзеце бялізну варыць, трэба яе добра вымыць адзін раз у цёплай вадзе з мылам ці парашком „Паллена" або „Пралюкс". Да гэтых парашкоў мыла ўжо дадаваць не трэба. Акрамя таго, у сваім складзе яны маюць ужо рэчывы, якія выбельваюць бялізну, таму пасля іх не трэба ўжо ўжываць ні бялінкі, ні хлору. Парашок такі трэба спачатку распусціць у цёплай вадзе і ў атрыманы раствор апусціць бялізну, падаграваючы на невялікім агні, пакуль вада не закіпіць. Зразумела, усё сказанае датычыцца перш за ўсё белай бялізны.

Памыўшы бялізну пасля варкі, застаецца толькі яе дакладна выпаласкаць і накрухмаліць. Чыстую бялізну неабавязкова падсіньваць. Застаецца развесіць бялізну ў той жа дзень.

**Гаспадыня**

## HAPPY END





*Заказвалі Аня Садоўская, Валя Мартынюк і Ірэна Іванюк з Паўлаў, а таксама Тося Палавянюк, Анна Асеннік, Лена і Геня Артэмюк з Парцава.*

## Кансультацыя юрыста

**ПЫТАННЕ:** Д. К. атрымоўвае па 500 зл. аліментаў ад бацькі, засуджаных у 1973 г. У канцы 1974 г. яна патрабавала падбаўкі аліментаў, але суд адмоўна вырашыў справу. Д. К. рэвізійнай скаргі не ўносіла. Рашэнне суда яна лічыць несправядлівым, бо бацька зарабляе добра, а сітуацыя маці — значна горшая. Ці можа яна яшчэ падаць у суд на падбаўку аліментаў? Адны ёй тлумачаць, што гэта немагчыма, бо рашэнне з'яўляецца правамоцным, іншыя ж гавораць, што ў аліментацыйных справах заўсёды можна патрабаваць змены правамоцнага рашэння. А як у сапраўднасці?

**АДКАЗ:** У аліментацыйных справах, калі змяняюцца ўмовы, якія існавалі ў часе, калі суд вырашаў справу, можна патрабаваць змены правамоцнага рашэння. Да гэтых умоў залічваецца перад усім палепшанне або пагоршанне матэрыяльнай сітуацыі бацькі або маці, і пабольшанне або паменшанне коштаў утрымання дзіцяці. Калі суд правамоцным рашэннем адмовіў падбаўкі аліментаў, то пасля гэтага можна нанава выступаць у суд, калі зменяцца ўмовы, прыкладна, бацька пачне зарабляць больш, а патрэбы дзіцяці пабольшацца, напрыклад, у сувязі з яго паступленнем на вучобу. Калі б змена ўмоў не адбылася, не было б асноў нанава падаваць у суд. Калі Д. К. лічыла, што рашэнне суда, якім адмоўлена падбаўка аліментаў, несправядлівае, то павінна была яна адклікацца да ваяводскага суда. Паколькі гэтага не зрабіла, не можа нанава патрабаваць падбаўкі аліментаў на тых самых падставах, якія браў пад увагу суд, адмаўляючы гэтай падбаўкі.

## Вер-не-вер

### СВЕЖЫЯ КВЕТКІ І ЗЯЛЁНЫ СВІЦЕР

*Дарагі Астрон!*

Сніцца мне жанчына, што жыве па-суседску ў блоку. Я з ёю не сябрую, не гаварыла нават ніколі, а тут як бы мы былі добрыя сяброўкі. Я зайшла да яе дадому. Вельмі спачуваю, бо яе дзяўчына застрэлілася (гэта праўда). Потым як бы імяніны гэтай дзяўчыны, а я прынесла кветкі, пажадала маці ўсяго найлепшага. Паставіла тыя кветкі на падваконніку, а там ужо шмат стаяла кветак, але ўсе пасохшыя, а мае зеленаватыя. — І я падумала: тыя ўсе сухія, а мае свежыя. Потым тая суседка зрабіла маёй дачцы світэр. Зялёны, з вялікім каўняром. Надзела ёй сама. Світэр прыгожы і прыгожа дачцы ў ім.

**М. Ф. з Беластока**

*Дарагая чытачка!*

Ваш сон добры. Жанчына была з вамі ў прыязных адносінах, сяброўка нават. Гэта радасць. Свежыя кветкі, якія вы прынеслі, азначаюць нейкую прыемнасць для вас, (а што радасць вашай суседкі завяла, як усе яе кветкі, нічога дзіўнага: вы ж пішаце, што сапраўды яе дачка застрэлілася). Світэр зялёнага колеру, які зрабіла гэта жанчына вашай дачцы, абазначае нейкі добры паварот у справах вашай дачкі. Зялёны колер — заўсёды колер надзеі.

**Астрон**

## Ці ведаеце што...

У Венгрыі жыве 75 асоб, якім 100 і больш год. З іх — 64 жанчыны і 11 мужчын. Самай старэйшай жыхаркай гэтай краіны з'яўляецца Мар'я Філкор, якая пражыла 107 год.

Як паказвае статыстыка, жанчыны жывуць на многа даўжэй, чым мужчыны. (ті)




Ён зноў апусціў галаў да пасудзіны; у глыбіні яе, у вадзе, гойдаўся агеньчык ад запальнічкі. Чамусьці Валоку зрабілася блага — ён хіснуўся ад вады, Фрыц штосьці сказаў, пабурчаў і прыбраў ваду ўбок.

Баец сцішыўся ў доле, так яму стала лягчэй — спякотны жар уняўся, толькі галава, плечы і нешта ў сярэдзіне тупа балелі. Ён зноў заплюшчыў вочы, аддаючыся спакою, і раптам прахапіўся ад думкі — дзе аўтамат? Чалавек ірвануўся з долу — немцавы рукі адразу прытрымалі яго, настойліва паклалі назад, і Валока ў нейкім раптоўным прасвятленні здзівіўся з самога сябе: было ад чаго палохацца, калі цяпер ён у поўнай уладзе гэтага немца. І ён адчуў нейкую сталую прыязнасць да яго, быццам яны знаёмыя былі ўвесь век і цяпер сталі самыя найбліжэйшыя адзін аднаму і самыя патрэбныя. І таму — прэч усе падазрэнні, засцярожлівасць, недавер! Усё, што стала над іх чалавечаю сутнасцю, — усё, наслоенае іх нацыянальнаю рознасцю, палітычнай варожасцю, вайной, — усё гэта, аддзеленае ад іх магільнаю тоўшчай руін, засталося там, наверсе, у беззваротным мінулым. Два гэтыя пажылыя, труднага лёсу працаўнікі былі тут людзі і толькі дбалі пра тое, як абодвум застацца жывымі дзеля іх сем'яў, мірнае справы, дзеля самых звычайных і незаменных чалавечых радасцей.

Валока памацаў рукой немцава калена побач і слаба пацісвуў яго. Фрыц жыва адгукнуўся, падняў яго руку, таксама далікатна пацісвуў яе ля локця і асцярожна паклаў на дол. Тлумачыць адзін аднаму нічога не трэба.

Пасля баец сціх і забыўся. Клопат яго знік, боль крыху прыціх, але нейкія ўнутраныя пакуты працягваліся. Невядома, ці гэта быў сон, ці трызненне хворага, толькі пакутныя здані і прывіды доўгі час не пакідалі яго.

Неяк ён убачыў сябе ў Брэслау, на гарадской ускраіне ў садку, дзе з тыдзень да наступлення перафарміроўваўся іх полк. І быццам яшчэ не было гэтага наступлення, але ўжо ўсё, што здарылася цяпер з ім, стала мінулым, і Валока не стараўся зразумець, чаму гэта так. І быццам быў жывы камбат Папрэнка, забіты яшчэ пад Оршай; ён выклікаў Валоку ў штаб, і баец з цяжкім сэрцам прыйшоў у бліндаж, хоць ведаў, што ў Брэслау штаб батальёна змяшчаўся ў ладным катэджы з балконамі, а не ў бліндажы. Але ў бліндажы чамусьці аказаўся не камбат Папрэнка, а капітан Воранаў. „Ну што, нямецкі шпіён?" Такім папрокам сустрэў ён Валоку, хапіў яго за плечы, здзёр пагоны, потым пачаў настаўляць пісталет у кружочкі медаляў на ягоных грудзях. „Немца хаваў? Ворага тытунём частаваў? Чаму не забіў?"

Валока вельмі хацеў вытлумачыць, што і як сталася з ім у гэтым склепе, але мову ў яго адняло і ён адчуваў, што зараз будзе пагібель. І сапраўды, Воранаў стрэліў, але болю Валока не адчуў, і тады здагадаўся: медалі. Медалі яго ўратавалі ад кулі. Але ў той жа час у Воранава замест пісталета апынулася супрацьтанкавае ружжо — гэта была ўжо пэўная смерць.

„Здраднік! Пракурыў Радзіму? Вышэйшую меру табе!" — гучалі страшныя словы, і Валока азірнуўся ў пошуках выйсця. Але раптам аказалася, што ззаду роўнае поле, Воранаў некуды знік, і ён, Валока, як у даўнія, даваенныя часы сядзіць у вясновы дзень на краі баразны, паставіўшы босыя ногі на мяккі вільготны глей. Побач шнурком сядзяць калгаснікі, яго аднавяскоўцы, у барознах адпачываюць коні, з ззаду, па раллі, клюючы вялікіх белых чарвякоў, скачуць гракі. Усе кураць, жартуюць, снедаюць тым, што папрыносілі ім дзеці і жонкі, п'юць квас. Валоку таксама вельмі хочацца піць, але сняданку яму ніхто не нясе, бо яго дом чамусьці далёка адсюль. Ён адзін тут вайсковец, на ім салдацкія галіфэ і гімнасцёрка, толькі яна без дзягі, якая разам з аўтаматам і скаткай ляжыць воддаль на раллі, і на скатцы сядзіць вялікі, нейкі нерухомы чорны грак. Усе смяюцца і кураць, а Валока ведае, што яму ўжо сняданку не будзе, бо ён асуджаны да смяротнае кары, і што ўсё тое, што ляжыць пад граком, ужо здадзена старшыні, які зняў яго і са сталавання.

Пасля таго коні, людзі і гракі знікаюць, толькі той нерухавы ўсё сядзіць на скатцы і крумкае. Аказваецца, гэта воран. Валока палохаецца настойлівай загадкавай птушкі, прабуе ўскочыць, тузаецца і ачынаецца.

(Працяг будзе)



 

## ПЕРАДАЧА ВОПЫТУ

— Каго я бачу! Марта Аляксандраўна, няўжо гэта вы? О, які цудоўны выгляд маеце! Памятаю, у вас калісьці паясніца балела. А зараз вы, як ружа: чырвоненькая, здаровенькая.

— Ой — ой! Ох — ох!

— Што з вамі?

— Нічога, гэта я па звычцы.

— Зноў паясніца?

— Якая там паясніца! З паясніцай даўно пакончана. Хіба гэта хвароба? Каму не пасокардзішся — ніхто нават не паспачувае. Я, пасля паясніцы, знайшла сабе больш сур'ёзную: нервы! Так было добра...

— Не разумею. Што добра?

— Жыць добра. На рабоце ніхто мяне не чапаў. Пуцёўкі на курорт давалі. Калі хацела, магла пайсці з работы. Ведала, у якіх магазінах і што даюць.

— А лекары ж як?

— Я ім такія сімптомы выяўляла, што ніякія кансіліумы не маглі разабрацца, пакуль прафесара не прывезлі. А ён пахадзіў навокал мяне і выпрашыў забраць у свой навукова-даследчы інстытут. Хвароба, кажа, унікальная, трэба яе даследаваць.

— І вы ездзілі?

— А што я там забыла? Каб на мне, як на кроліку, доследы ставілі?... Такая была харошая хвароба... У рабочы час у цырульню магла пайсці ці ў атэлье, у чарзе за дэфіцытнымі рэчамі было калі пастаяць. І цераз гэтага прафесара давялося пакінуць...

— Работу?

— Хваробу. Паўгода нічым не хварэла. Свет нямілым стаў. Затузалі, закаркалі, замучылі. О! Пакуль не вычытала, што існуе хвароба стагоддзя. Няўжо, думаю, ад стагоддзя адставаць. І стала на сэрца скардзіцца. Вынікі пакуль што нядрэнныя: ужо пабывала на курорце, на рабоце ўсе шкадуюць. Аднойчы, праўда, дырэктар пасмеў зрабіць мне заўвагу. То я бабахнулася на падлогу і — ні жывая, ні мёртвая. „Хуткую" выклікалі. Давялося некалькі ўколаў прыняць. Але што тыя ўколы ў параўнанні з перапалохам, які дырэктар меў. Цяпер абыходзіць мяне бокам. Ну, бывайце, дарагая.

— Куды ж вы так хутка, Марта Аляксандраўна?

— Сёння атрымала зарплату, то мела лёгкі прыступ. І вось выйшла кісларод глытануць, а заадно паглядзець, што ў „Жаночым адзенні" даюць.

— Я б хацела вашым вопытам пакарыстацца. Ці не маглі б і мне адпаведную хваробу параіць?

— Заўтра мне будзе дрэнна, і я не выйду на работу. Забяжыце: пагутарым, чайку пап'ем. Там і хваробу нейкую для вашага здароўя падшукаем.

**Уладзімір Красоўскі**



*Дырэктар на адпачынку.*

## НІЎКА



### ХІТРАЯ ЛІСА

Адзін паляўнічы, палюючы на лісу, абыйшоў усе далінкі, ляскі, садкі, ды ўсё-такі вярнуўся дамоў паражнякам. Толькі ён на парог, а жонка яму:

— Дзе цябе нячыстая сіла носіць? Тут вось ліса зацапала пеўня і курыцу.

### МАЎЧЫ

Дзве ўдавы гавораць цераз плот.

— Ой, кума, я так спалохалася, так спалохалася праз вас. Думала, што вы гэтай ночы захварэлі.

— Адкуль вы гэта ўзялі?

— Бо бачыла, як досвіткам ад вас лекар выходзіў.

— Маўчыце, кума. Як ад вас пазаўчора раненька пажарнік выходзіў, я не крычала: „Гарыць".

### ЗАДАННЕ ПЕРАМОЖЦУ

— Гэта пра цябе пісала газета, што быццам у змаганні на тысячу метраў заняў першае месца?

— Пра мяне. Дык што?

— Тады бяры вось грошы і збегай за паўлітрам, бо праз пятнаццаць мінут краму зачыняць.

### МІНІВЕРШЫ

### КЛАПАТЛІВАЯ

*— Ты не будзеш адзінокай*
*Болей, мама, ані дня.*
*І дачка ёй шле здалёку*
*На гадоўлю дзіцяня.*

**Іван Курбека**



...У яго размова кароткая — на доўгую не хапае слоўнага запасу.

...Работа ў яго ішла, а час — бег.

## СУСЕД

*Мы шкадавалі цесляра-суседа:*
*Сваю прыстойнасць майстар той згубіў,*
*Як здарыцца якая дзе бяседа,*
*Упохапкі за чаркай чарку піў.*
*Піў і ў суботу ён,*
*і ў панядзелкі.*
*Штодня яму —*
*Асфальт, нібы плывун.*
*А кладучыся, поўную бутэльку,*
*Як тую зброю,*
*Клаў пад галаву.*
*То п'яны*
*выганяў з кватэры жонку,*
*То на дзіця*
*Раз'юшана крычаў,*
*Яго шматпавярховую гамонку*
*Мы не аднойчы чулі па начах.*
*І трэба пра яго падумаць, людзі,*
*Па-добраму*
*яго пашкадаваць:*
*Хоць на каленечах*
*выпрошваць будзе,*
*Віна яму ні кроплі не даваць.*

**Аляксандр Касцень**





### ЧАМУ Ў СПЁКУ ВЕТРЫК БЫВАЕ

Летам бываюць такія дні, калі кажуць: варыць, быццам у гаршку. Здаецца, ніякага ратунку няма. Раптам, ветрык: свежы, пяшчотны. Быццам нанава на свет народзішся.

А дзеецца так вось па якой прычыне.

Сабраліся неяк Сонца, Мароз і Вецер па зямлі пахадзіць разам. Ідуць яны дарогай і спрачаюцца, хто больш моц мае. Насустрач селянін. Параўняўся з падарожнікамі і кажа: „Здароў будзь!"

Узнікла зноў спрэчка. Каму селянін „Здароў!" сказаў. Парашылі вярнуць таго і спытаць, менавіта каму прывітанне адрасавана.

Збянтэжыўся селянін. Босымі нагамі тупоча, патыліцу шкрабе. Трэба ж угадаць так, каб не пакрыўдзіць нікога. Стаяць перад ім трое. Адзін дзед з чырвоным носам і белай барадой — Мароз. Другі з зіхатлівай лысінай — Сонца. Трэці — плячысты, дужы дзяцюк з тоўстай мордай і велізарнымі губамі.

— Вось яму, — ткнуў пальцам селянін на Вецер.

— Пачакай жа, — кажа Мароз. — Я цябе зімой у лядаш ператвару.

— А я спяку на шкварку, — грозіцца Сонца.

— А гэта як я яшчэ пагляджу, — адказаў Вецер.

Так яно і ёсць. У вялікі мароз вецер ніколі не дзьме. Затое ў спёку абавязкова лёгенька павявае.



*— Калі я гаварыла, што добра б ударыць дзяўчынку, я мела на ўвазе маленькую!*



*— Брава! Асабліва мне спадабалася, як спакойна ты парыраваў левым вокам яго ўдар.*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Ані Стэльмашук з Дубляч, Галіны Юзвюк з Барысаўкі, Ані Бышчук з Кузавы, Любы Паплаўскай і Янкі Паўлючука з Плёсак, а таксама сёстраў Веры і Марысі Манцюк з Мікуліч, Марыі Карпюк і Аліны Грыгарчук з Агароднікаў, змяшчаем песню*

### SŁOWO JEDYNE – TY

**słowa: Krzysztof Dzikowski**
**muzyka: Seweryn Krajewski**
**śpiewają: „Czerwone Gitary".**

Zobacz — pająki tkały welon twój,
widzisz — z pajęczej przędzy tkany tiul.
Kiedy ty, ty, ty staniesz rankiem przy mnie,
błysną w nim klejnoty rosy.

Zobacz — rozwija się konwalii kwiat,
słuchaj — dźwięk leśnych dzwonków niesie wiatr
Kiedy ty, ty, ty idziesz ze mną,
dzwonią wszystkie dzwony Ziemi.

Ty — jedyne słowo z wszystkich słów,
ty — najwięcej znaczy z wszystkich słów.
Ty — znalazłaś dla mnie uśmiech dnia,
ty — uczyłaś mnie jak kochać świat.

Zobacz — przejrzystej wody pełen dzban,
Spróbuj — w prezencie ślubny strumień dał
Kiedy ty, ty, ty wzniesiesz pierwszy toast,
wzniosą toast leśne echa.

Ty — jedyne słowo itd.

Popatrz — kobierzec z igieł utkał las,
dzisiaj — do ślubu będziesz po nim szła.
Kiedy ty, ty, ty idziesz, idziesz ze mną
kwitną wszystkie kwiaty Ziemi.

### НУ І КНІЖКА!

Спадабалася мая кніжка? — пытаецца аўтар новага рамана ў свайго сябра.

— Што ты! Так захапіўся чытаннем, што нават не заўважыў, як заснуў.

### РАЗМОВА АДПАЧЫВАЮЧЫХ

— Табе трэба тэрмінова пахудзець.

— Як жа тут пахудзееш, калі так добра кормяць?

— А ты не еш усяго.

— Шкада пакінуць, калі грошы за пуцёўку заплаціў.

### АДГАДАЎ

— Хто над намі ўгору нагамі? — загадаў бацька сыну загадку.

— Суседзі, што жывуць над намі, — здагадаўся хлапчук. — Мама казала, што яны там на галовах ходзяць.

### РАЗВАЖЛІВЫ ГУЛЬТАЙ

— Кепска быць падначаленым, — гаварыў гультай. — Адзін пасылае туды, другі — сюды... Добра, што я — нікуды, а то загналі б.





### МАДЭЛЬ САБОРА З... ЗАПАЛАК

Бон. Мадэль Кёльнскага сабора з запалак пабудаваў жыхар заходнегерманскага гарадка Офінген каля Штутгарта, Г. Кленк. Для гэтай работы яму запатрабавалася каля 2,5 мільёна запалак і 8000 цюбікаў клею. Разам са сваімі васьмю сынамі Г. Кленк 6 гадоў працаваў над мадэллю.

На мадэлі, выкананай па арыгінальных будаўнічых чарцяжах, узнаўляюцца ўсе дэталі сапраўднага сабора.

### ПАВЕТРАНЫЯ ШАРЫ СУПРАЦЬ ЗНІШЧАЛЬНІКАЎ

Гаага. Да незвычайнага сродку вырашылі звярнуцца жыхары некалькіх сёл у галандскай правінцыі Лімбург, каб дабіцца спынення палёту ваенных рэактыўных знішчальнікаў НАТО над дахамі іх дамоў. Яны аб'явілі, што ў адказ на „шумавы тэрор" супраць нізкалятаючых самалётаў будуць выкарыстаны паветраныя шары — з прымацаванымі да іх — для парушэння радарнага кантакту — паласамі алюмініевай фальгі. Жыхары правінцыі рыхтуюць тысячы шароў для паветранай заслоны супраць равучых эскадрылляў.

### НОС ДАПАМОГ

Токіо. У прэфектуры Яманасі размешчанай на захад ад Токіо, паліцыі ўдалося злавіць злодзея, які займаўся крадзяжом жывёлы, — па адбітках насоў буйвалаў, якіх ён украў у аднаго мясцовага фермера.

Паліцэйскі эксперт заявіў, што адбітак носа ў жывёлін гэткі ж своеасаблівы, непаўторны і не змяняецца з ростам жывёліны, як і адбіткі чалавечых пальцаў.

У Японіі існуе правіла здымаць адбітак носа жывёліны пры яе рэгістрацыі. Гэта аблягчае вырашаць многія спрэчкі ўладальнікаў жывёлы.





**Варта купіць аўтамашыну, калі жыццё пойдзе колам.**